. . . Бо мяне міласьцівы Бог з тае мовы на сьвет пусьціў . . .

# Беларуская СЬВЯТЫНЯ

№ 1/1990

ВЫДАНЬНЕ АРГКАМІТЭТУ БЕЛАРУСКАЙ КАТАЛІЦКАЙ ГРАМАДЫ

500
гадоў
з часу нараджэньня
**ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ**
каля 1490 г.– пасьля 1551 г.

Мы пачынаем. Гэта будзе наша размова з нашым людам, гэта будзе шчырая споведзь, і шчырая малітва. Адчыняем дзьверы ў Храм нашае веры. Няхай вера і нашая мова даходзяць да ўсіх вернікаў, да ўсіх беларусаў. Пачынаем і спадзяемся на узаемнасьць, на разуменьне, на падтрымку. Разам зьвяжам парваныя вузы нашае памяці, веры, культуры. Няхай нашае слова да Вас, шаноўныя чытачы – ці то каталікі, ці то праваслаўныя, ці то вуніяты, ці то пратэстанты – стане ўрадлівым зернем, зь якога вырасьце квітнеючы сад Беларускай Сьвятыні, дзе будзе роўнае месца ўсім канфесіям, усім вернікам-беларусам.

Гэты сад – Беларусь – наш супольны дом, наша Бацькаўшчына, дзе запануе мір, узаемаразуменьне, дабрабыт, узаемапавага.

З Богам у добры шлях!





**". . . У добрых справах і ў любові да Айчыны не толькі жанчыны але і мужчыны спадкавалі і ўсялякай працы і скарбаў для паспалітага добрага і для Айчыны сваея не лютавалі, панеж а ад нараджэньня зьверы, ходзячы ў пустыні, знаюць ямы свае; птушкі, лётаючы ў паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, плаваючы па моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і тым подобныя бароняць вульляў сваіх, – так жа й людзі, і дзе зрадзіліся і ўскормлены суць па бозе, к таму месцу вялікую ласку і маюць . . ."**

Франьцішак, Скарынін сын з Полацка, у лекарскіх навуках доктар.

# 500 гадоў з часу нараджэньня ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

*Сёлета ва ўсім сьвеце адзначаецца 500-годзьдзе з часу нараджэньня Францыска Скарыны, беларускага першадрукара, вучонага, пісьменьніка, перакладчыка і мастака, доктара медыцыны і філасофіі, батаніка, вялікага асьветніка і гуманіста эпохі Адраджэньня. 1990 год абвешчаны ЮНЕСКО годам Францыска Скарыны.*

*Прагрэс і ўзровень разьвіцьця кожнай культуры вызначаецца розьвіткам літаратуры, наяўнасьцю кнігі і кнігадрукаваньня. Ф. Скарына даў друкаваную кнігу ня толькі беларускаму народу, але кніга стала духоўным набыткам народаў усёй Усходняй Еўропы. Беларускі першадрукар і асьветнік – аўтар перакладаў Сьвятога пісаньня на старажытную беларускую мову. У Ф. Скарыны былі трывалыя сувязі зь еўрапейскай сярэдневяковай і рэнесанснай навукай і культурай у першую чаргу з італьянскай, чэшскай, нямецкай, польскай, што плённа адбілася на разьвіцьці беларускай культуры і навукі. Урэшце ў спадчыне і дзейнасьці Скарыны мы знаходзім жывыя і плённыя думкі, сугучныя сучаснаму экуменічнаму руху. Гэтай тэме прысьвечаны даклад доктара Адама Мальдзіса, прачытаны ў Рыме 1 Траўня 1990 г. на канферэнцыі „Асновы гістарычных і культурных традыцыяў у Цэнтральна-Усходняй Еўропе: Беларусь, Літва, Польшча, Украіна (былой Рэчы Паспалітай)", арганізаванай Польскім Інстытутам Хрысьціянскае Культуры, што знаходзіцца ў Рыме пры супрацоўніцтве зь ньюёркскім Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва; Літоўскай Каталіцкай Акадэміяй Навук у Рыме ды філадэльфійскім Украінскім Інстытутам Дасьледаваньня Усходняй Еўропы імя Лыпынськага. Працоўнымі мовамі канферэнцыі былі польская, беларуская і ўкраінская. Тэкст даклада падаецца зь нязначнымі скарачэньнямі.*

**Адам МАЛЬДЗІС**
Доктар філалагічных навук,
сябра сойму БНФ „Адраджэньне",
сябра Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

## ФРАНЦЫСК СКАРЫНА ЯК ЛУЧНІК ПАМІЖ ПРАВАСЛАЎНЫМ УСХОДАМ І КАТАЛІЦКІМ ЗАХАДАМ

Як арыгінальны мысьляр Франьцішак Скарына, безумоўна, склаўся на айчыннай, усходнеславянскай глебе, на праваслаўна-візантыйскіх традыцыях. Ён узрос на багатай ідэйна-мастацкай спадчыне святых Кірыла і Мяфодзія, такіх духоўных дзеячаў старажытнай Беларусі, як святы Кірыла Тураўскі. Ён дасканала ведаў усходнеславянскую рукапісную кнігу, шырока выкарыстоўваў творы ўсходняй патрыстыкі (Васіль Вялікі, Грыгорый Багаслоў, Іаан Златавуст і інш.). Погляды Скарыны сфармаваліся ў непарыўнай сувязі з усходнеславянскім народным сьветаўспрыманьнем, зь беларускай рэальнасьцю канца XУ – пачатку XУІ ст., з самасьвядомасьцю беларускага народа, які тады складаў аснову Вялікага княства Літоўскага. Аднак Ф. Скарына не стаў бы адным з волатаў еўрапейскага Адраджэньня, калі б абмежаваўся толькі засваеньнем сярэдневяковай праваслаўна-візантыйскай традыцыі. Ён добра ўсьведамляў яе абмежаванасьць, паступовую страту ёю „эвалюцыйнай якасьці". Гэтая традыцыя патрабавала карэннага абнаўленьня, і наш суродзіч абнаўляў яе, абапіраючыся на рэнесансна-гуманістычны вопыт, да якога ён далучыўся, будучы студэнтам Ягелонскага універсітэту ў Кракаве, знаходзячыся ў Чэхіі і Італіі. Хаця ў свой час і былі спробы адлучыць Скарыну ад заходнееўрапейскага (найперш італьянскага) Рэнесансу (Г. Лаўмяньскі і інш.), аднак пераважная большасць сучасных даследчыкаў (У. Калесьнік, У. Конан, С. Падокшын, Б. Тапольска, І. Юргініс і інш.) зыходзяцца на тым, што беларускі першадрукар выступіў як заснавальнік і найбольш яркі прыхільнік рэнесанснага гуманізму на тэрыторыі Беларусі і Літвы. У розных працах тэрмін „рэнесансны гуманізм" удакладняецца словамі „хрысціянскі", „раньні", „паўночны" або „ўмераны".

У асобе Ф. Скарыны сёньня мы бачым адначасова і апошняга значнага прадстаўніка беларускага Сярэдневякоўя і першага буйнога дзеяча беларускага Рэнесансу. У спадчыне вялікага Палачаніна арганічна сплавіліся, сінтэзаваліся самыя розныя традыцыі – сярэдневяковыя і рэнесансныя, усходнія і заходнія, праваслаўныя і каталіцкія, хрысьціянскія і паганскія (антычныя), рэлігійныя і сьвецкія. Скарына тварыў на памежжы двух сьветаў, дзвюх культур: усходнеславянскай і заходнееўрапейскай, праваслаўна-візантыйскай і каталіцка-раманскай і тым самым садзейнічаў іх узаемнаму пазнаньню, збліжэньню і ўзаемаўзбагачэньню. Гэта быў адзін з першых буйных пасрэднікаў у духоўным абмене паміж Усходняй і Заходняй Еўропай, чыя дзейнасьць вяла да паступовага збліжэньня двух макрарэгіёнаў, стварэньня агульнаеўрапейскай супольнасьці, садзейнічала аднаўленьню агульнахрысьціянскага адзінства.

Для таго, каб зразумець місіянерскую ролю Франьцішка Скарыны як лучніка паміж праваслаўна-візантыйскім Усходам і каталіцка-раманскім Захадам, трэба ўдакладніць яго канфесійную належнасьць. Нягледзячы на відавочныя факты, вакол гэтага пытаньня ўсё яшчэ вядуцца спрэчкі. Адны даследчыкі (А. Віктараў, В. Дышыневіч, П. Уладзіміраў) лічылі і лічаць Скарыну праваслаўным, другія (В. Дарашкевіч, Ф. Сяліцкі) – каталіком, трэція – ерэтыком, „нахільным да гусізму" і да „лютарства" (А. Ясінскі), чацьвертыя – ледзь не атэістам. І кожны з аўтараў прыводзяць свае, здавалася б, важкія аргументы і контраргументы.

Між тым, пра тое, што Скарына быў каталіком, найперш сьведчыць яго выключна каталіцкае імя Францыск (Франьцішак), якім ён падкрэслена карыстаўся ва ўсіх выданьнях. Затым – хаця і больш ускосна –

яго шлюб з каталічкай Маргарытай Адзьвернік, яго сакратарства ў віленскага біскупа Яна, яго служба пры двары Фердынанда І. Урэшце, вельмі істотным зьяўляецца факт, што ў дакуменце 1552 г. беларускі першадрукар прама называецца „падданым рымскай царквы".

Акрамя біяграфічных ёсць і аргументы іншага, дагматычнага характару. Г. Лаўмяньскі ў свой час зьвярнуў увагу на тое, што ў адрозьненьне ад „схізматыкаў" Скарына называе маці божую „дзевіцай Марыяй", што летазьлічэньне ён вядзе не ад стварэньня свету, а ад нараджэньня Хрыста – услед за Рымам. Паводле Ф. Сяліцкага, у карысьць каталіцызму Скарыны сьведчаць парадак разьмяшчэньня запаведзяў у Маісеевым дэкалогу і заходнія ўзоры, выкарыстаныя ў гравюрах. У выніку скарынаўскія выданьні істотна адрозьніваліся ад кананічных праваслаўных тэкстаў і таму не выклікалі даверу ў праваслаўнага духавенства. Як відаць з прадмоў да гэтых выданьняў погляды беларускага асьветніка склаліся пад непасрэдным уплывам твораў каталіцкай патрыстыкі – найперш сьвятых Аўгусціна і Тамаша з Аквіну. Скарына лічыў сябе пасьлядоўнікам перакладчыка Біблії на лацінскую мову сьвятога Ераніма.

Аднак у даследчыкаў, якія залічаюць Скарыну да праваслаўя, таксама ёсьць важкія аргументы. Нягледзячы на фармальную падпарадкаванасьць рымскай царкве беларускі першадрукар сапраўды недалёка адышоў ад праваслаўя. Сваю выдавецкую справу ён пачаў у праваслаўнае сьвята Перастварэньня, якое асацыіруецца з абнаўленьнем. Свае кнігі Скарына адрасаваў людзям ўсходняга веравызнаньня. Асабліва гэта датычыцца „Малой подорожной книжки", дзе ён пайшоў (і ў мове, і ў зьмесьце) на яўныя ўступкі праваслаўнаму духавенству. Так, каляндар у „Шестодневце" складзены па „обычаю всех восточных церквий", у кніжцы называюцца імёны сьвятых, не прызнаных у каталіцкім сьвеце, няма абавязковага ў гэтым сьвеце ўпамінаньня папы рымскага, а само слова „праваслаўны" ўжываецца даволі часта (да прыкладу, у „Шестодневце": „Помяни, господи, плененных от иноплеменных братию нашу, еже суть у православной вере"). У „Малую подорожную книжку" ўваходзяць акафісты і каноны Божай Маці і святым, якія не ўжываліся ў каталіцкім набажэнстве. У цэлым зьмест скарынаўскіх выданьняў адпавядаў праваслаўнай – візантыйскай традыцыі.

Такім чынам, перад намі паўстае незвычайная, парадаксальная сітуацыя: будучы каталіком, Скарына, тым не меньш, выдаваў канфесійныя кнігі для праваслаўных. У розныя часы даследчыкі імкнуліся неяк вытлумачыць гэты парадокс рэбаптызацыяй. Адны (А. Віктараў) сьцьвярджалі, што Скарына прыняў праваслаўе, будучы раней каталіком, другія (В. Зайцаў) – што з праваслаўных ён стаў каталіком дзеля паступленьня ў Кракаўскі ўнівэрсітэт, што дзеля гэтага нібы затаіў сваё ранейшае імя і прыняў новае – Францыск. Раздаваліся нясьмелыя галасы, што каталіцкае хрышчэньне Скарыны адбылося раней, у дзяцінстве. Але апаненты ў такім выпадку звычайна спасылаліся на катэгарычнае выказваньне П. Уладзімірава: „У Полацку ў канцы XУ і нават у пачатку XУІ стагодзьдзя не было ніводнага каталіцкага касьцёла; насельніцтва горада складалася з рускіх праваслаўных".

Сёньня, аднак, мы ведаем, што гэта не так. У канцы XУ ст. у Полацку існавала місія бернардзінцаў, якая вяла шырокую прапаведніцкую дзейнасьць. У 1490 г. вялікі князь Аляксандр даў ім прывілей на „месца пад сваім замкам у Полацку ... дзеля ўзьвядзеньня касьцёла ў гонар Бога-Збавіцеля і сьвятой дзевы Марыі, а пад імем сьвятых Францішка і Бернарда, кляштара і яго пабудоў". У тым жа годзе зь Вільні ў Полацак сьціраваліся чатыры манахі на чале з выпускніком Ягелонскага ўнівэрсітэта гвардыянам Львом з Ланьцута. У 1498 г. драўляны кляштар (канвент) быў ужо ўзьведзены, а яго гвардыян атрымаў правы плябана, г. зн. мог хрысьціць людзей.

І вось, як мяркуе польскі гісторык ордэна К. Кантак, полацкія бернардзінцы „ахрысьцілі мноства людзей, іншых вярнулі са схізмы. Вакол канвента вырасла нешта накшталт каталіцкай абшчыны ў некалькі тысяч чалавек. Паміж вернутымі аказалася таксама сям'я Скарынаў, як пра гэта сьведчыць імя знакамітага выдаўца Францішак". Той факт, што беларускі асьветнік прыняў каталіцкае хрышчэньне ад бернардзінцаў і яшчэ ў дзяцінстве, многае праясьняе і ў яго біяграфіі, і ў яго выданьнях, тлумачыць яго верацярпімасьць, „надканфесійнасьць". Справа ў тым, што бернардзінцы, у адрозненьне ад іншых каталіцкіх ордэнаў, знаходзіліся на левым краі тагачаснай канфесійнай барацьбы, талерантна адносіліся да праваслаўя. Яны прызнавалі „важнымі і правільнымі" ўсе праваслаўныя таінствы, у тым ліку і хрышчэньне, не патрабавалі пры рэбаптызацыі „прыняцьця лацінскага абраду". Вось чаму Скарына, калі ён быў рэбаптызаваны бернардзінцамі, атрымаў ад іх імя Францыска, патрона ордэна і полацкага касьцёла, адчуваў сябе адначасова і праваслаўным, і каталіком. Для яго аднолькава важным было і першае хрышчэньне, і другое. Ён мог узьняцца над асобнымі дагматамі абодвух хрысьціянскіх веравызнаньняў. Ён увесь час імкнуўся іх паяднаць, ураўняць у правах. І такое імкненьне ў першай палове XУІ ст. было вельмі актуальным. Пры пэўнай талерантнасьці ў тагачасным Вялікім княстве Літоўскім каталіцызм усё ж зьяўляўся ў многім пануючай рэлігіяй. На праваслаўных тут часта глядзелі як на „дрэнных хрысьціян, што нямногім адрозьніваліся ад язычнікаў". Праваслаўным забаранялася займаць некаторыя пасады, мураваць новыя цэрквы. У такіх умовах словы Скарыны пра роўнасьць вызнаньняў, пра тое, што „церков Христова" зьяўляецца „мати всех хрестиан", несумненна мелі станоўчае значэньне.

Заклікі Францыска Скарыны да „церковной единоты", адпавядалі інтарэсам усяго беларускага народа. Раздзяленьне на праваслаўных і каталікоў, якое тады паглыблялася, паводле Я. Юхо, „перашкаджала разьвіцьцю самаўсьведамленьня і вызначэньню адзінай народнасьці". Скарына нібы прадчуваў, што рэлігійная варожасьць фатальна адаб'ецца на фармаваньні беларускай нацыі, запаволіць яго. І таму імкнуўся хаця б не ятрыць абедзьве канфесіі, пашыраць „едноту".

Беларускі мысьляр імкнуўся да абнаўленьня як праваслаўя, так і каталіцызму, вызваленьня іх ад пазьнейшых напластаваньняў і супярэчнасьцяў.

Роля Францішка Скарыны як лучніка праваслаўнага Усходу і каталіцкага Захаду набывае асаблівую значнасьць, калі разгледзець яе зь гістарычнай перспектывы. Вядома, што першым значным крокам да злучэньня ўсходнеславянскіх народаў з усёй Еўропай было Хрышчэньне Русі. Як падкрэсліваецца ў Апостальскім лісьце Папы Яна Паўла ІІ з нагоды Тысячагодзьдзя гэтай знамянальнай падзеі, менавіта тады „дзякуючы Кірыла-Мефодзіеўскай спадчыне адбылося тут судакрананьне Ўсходу і Захаду, спадчынных і новых каштоўнасьцяў". Пачала ўзьнікаць паўнацэнная ўсходняя „версія" хрысціянства, якая істотна дапаўняла і ўзбагачала заходнюю. У той час, ад прыняцьця хрысціянства да 1093 г., пашыраліся дыпламатычныя і культурныя кантакты Полацкай дзяржавы, Кіеўскай Русі з Заходняй Еўропай. Аднак потым, пасьля разрыву Візантыі з Рымам, пачаў ўзрастаць ізаляцыянізм. Усходнеславянскае праваслаўе ўсё больш аддалялася ад Заходняга сьвету, усё больш нагадвала замкнуты арганізм. Гэтыя тэндэнцыі асабліва ўзмацніліся пасьля таго, як у 1453 г. паў Канстанцінопаль, а Масква была абвешчана трэцім Рымам. У другой палове ХУ – першай палове ХУІ ст. плённы абмен духоўнымі каштоўнасьцямі паміж праваслаўем і каталіцызмам быў мажлівы толькі на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага зь яго шматканфесійнасьцю і рэлігійнай талерантнасьцю. Францішак Скарына хацеў пашырыць гэты абмен і на Маскоўскую дзяржаву, куды ён езьдзіў са сваімі выданьнямі прыблізна ў канцы 20-х гадоў ХУІ ст. Аднак на такую місію было яшчэ заўчасна.

Пасрэдніцкая місія Францішка Скарыны ў зьбліжэньні праваслаўнага Ўсходу і каталіцкага Захаду дала падставу некаторым вучоным (І. Добраўскі, Г. Лаўмяньскі) назваць яго духоўным прадвесьнікам уніяцтва, ледзь не яго пачынальнікам. І з такім сьцьвярджэньнем можна пагадзіцца. Але толькі часткова. Берасьцейская царкоўная унія – зьява неадназначная, шматпланавая. Ідэі Фларэнтыйскага сабору падтрымліваліся ў княстве якраз часткай вышэйшага праваслаўнага духавенства, якое імкнулася пераадолець зацяжны духоўны крызіс у сваім асяродзьдзі, умацаваць сваю незалежнасьць, ураўняць сябе ў прывілеях з духавенствам каталіцкім. Берасьцейская унія ажывіла грамадскую думку, спарадзіла багата твораў беларускай палемічнай літаратуры. Зь цягам часу уніяцтва стала ледзь не выключна народнай, найбольш беларускай верай. У Берасьцейскай уніі выразна відаць два пачаткі – празелітычны і экуменічны. Першы выяўляўся ў частковым падпарадкаваньні праваслаўя каталіцызму, рымскаму трону, другі – у захаваньні праваслаўнай абраднасьці і царкоўнаславянскай мовы багаслужэньня. Таму Скарыну можна лічыць прадвесьнікам уніяцтва толькі ў яго экуменічных праявах.

Францішак Скарына пакінуў нам багатую спадчыну, якая сёньня садзейнічае экуменічнаму руху, асабліва ў Беларусі, дзе памяць пра выдатнага гуманіста шануюць і праваслаўныя і каталікі.

Як жа ў сучаснай Беларусі рэалізуюцца запаветы Ф. Скарыны, сьціраваныя на мірнае і свабоднае сужыцьцё людзей, народаў і канфесій? У апошні час, у сувязі з агульнымі перабудовачнымі працэсамі, істотна абнавілася, стала амаль свабодным рэлігійнае жыцьцё. Масавы характар набыло вяртаньне сьвятыняў. Атрымала, на правах экзархату, самастойнасьць Беларуская праваслаўная Царква. Нарэшце маюць свайго біскупа вернікі-каталікі. Паміж абедзьвюма хрысьціянскімі канфесіямі ўсталяваліся добрыя адносіны. Усе канфесіі ў Беларусі юрыдычна раўнапраўныя. Аднак гэта не значыць, што нічога не трэба рабіць для іх фактычнага раўнапраўя. У адрозьненьне ад Беларускай праваслаўнай Царквы, якая ўжо аднавіла ў Жыровічах духоўную семінарыю з беларускім і рускім класамі, каталіцкае біскупства яшчэ не мае сваёй семінарыі (неабходна, каб у ёй таксама было б беларускае адзьдзяленьне). Надзённымі для беларускіх каталікоў застаюцца таксама праблемы выданьня свайго перыёдыка і трансляцыя набажэнства. Не маюць яны фактычна свайго Патрона, якім мог бы быць Ф. Абрантовіч або К. Сваяк.

Актуальным сёньня застаецца таксама патрыятычнае стараньне Скарыны даць „люду посполитому" Божае слова на зразумелай яму, роднай мове. Гэтае стараньне знайшло свой, на жаль, далёка не завершаны працяг у другой палове ХУІ ст. (С. Будны, В. Цяпінскі), часткова ў дзейнасьці уніятаў, а таксама ксяндзоў-асьветнікаў першага трыццацігодзьдзя ХХ ст. (Ф. Абрантовіч, Я. Быліна, А. Зязюля, К. Сваяк, А. Станкевіч і інш.). Аднак потым, у выніку сталінскіх рэпрэсіяў, а таксама праследаваньняў беларускага духавенства ў даваеннай Польшчы, гэтыя кволыя традыцыі былі абарваны і сёння аднаўляюцца зь цяжкасьцю. Першай істотна павярнулася да народнай мовы Беларуская праваслаўная царква. Дзякуючы яе ініцыятыве робіцца новы пераклад Сьвяшчэннага Пісаньня, рахтуецца нацыянальна сьвядомае духавенства. Каталіцкі ж касьцёл, за адзінкавымі выключэньнямі, застаецца польскім. Па традыцыі лічыцца, што ўсе каталікі ў Беларусі зьяўляюцца палякамі. Аднак гэта далёка не так. Паводле апошняга перапісу, колькасьць палякаў у Беларусі складае каля 500 тысяч (не ўсе яны, вядома, зьяўляюцца вернікамі), а колькасьць каталікоў па асьцярожных ватыканскіх падліках сягае двух мільёнаў чалавек. З гэтага вынікае, што тром чвэрцям беларускіх каталікоў пры цяперашняй палітыцы каталіцкага духавенства наканавана пазбаўленьне слова Божага на роднай мове, і паступовая паланізацыя. Ні тое, ні другое, не адпавядае гуманістычным традыцыям Скарыны і проста прынцыпам гуманізму.

Як бачым, ідэі „згоды" і „любви" паміж людзьмі, народамі і веравызнаньнямі, паміж Усходам і Захадам, якія Францішак Скарына прапаведваў у прадмовах да сваіх выданьняў ды сьцьвярджаў практычнай дзейнасьцю, застаюцца жывымі і павучальнымі й сёння. Альтэрнатывы Скарынавай „згодзе" няма.

**16 чэрвеня ў Менску адбыўся сход Менскай каталіцкай грамады. Сход абраў касьцельную Раду і Арганізацыйны камітэт па стварэньні Беларускай Каталіцкай Грамады.**

## АРГКАМІТЭТ БЕЛАРУСКАЙ КАТАЛІЦКАЙ ГРАМАДЫ:

**Абламейка Сяржук, Барташэвіч Віктар, Бічэль Данута, Вашкевіч Ігар, Вайткевіч Чеслаў, Верамей Аксана, Гушча Пятрусь, Купава Мікола, Ліпень Лявон, Лісоўская Аляксандра, Лямбовіч Людвіка, Манько Вінцэсь, Матусевіч Лілея, Папруга Уладзімір, Шунэйка Яўген, Янушкевіч Фэлікс.**

**Беларуская Каталіцкая Грамада**

## АДОЗВА

За гады панаваньня таталітарнай камуністычнай сістэмы на Беларусі наш народ зазнаў нечалавечыя выпрабаваньні: пад забаронай апынулася рэлігія, разбураліся выдатныя помнікі беларускай культуры, нявечылася гістарычная памяць народа і спрадвечная ягоная народная мараль. Выкарчоўвалася родная мова. Яна была цалкам выгнана з усіх сфераў функцыянаваньня ў дзяржаўных установах, школах, унівэрсітэтах. Антыгуманная сістэма дзеля раскола народа, яго дэнацыяналізацыі і канчатковага зьнішчэння заахвочвала ўжываньне чужых моваў у царкве і касьцёле. Усялякія спробы ўжытку беларускай мовы ў канфесійным жыцьці ўлады сустракалі варожа, а каталіцкія і праваслаўныя сьветары пад палітычным уплывам суседніх дзяржаў падзялілі беларускі народ на "палякаў" і "рускіх". Нават памерлы беларус ужо назаўсёды атрымлівае надмагільны крыж або камень з рускім ці польскім надпісам. Беларускі народ апынуўся на мяжы свайго духоўнага выраджэньня.

Зараз, калі Беларускі Народны Фронт ужо другі год вядзе барацьбу за людскае і боскае выратаваньне беларускай нацыі, беларускае Хрысьціянства таксама павінна стаць на бок адраджэньня Айчыны. Тут місія хрысьціянства мусіць стаць вызначальнай.

Браты і сёстры! Каталікі і праваслаўныя! Дзеці зямлі Беларускай! Нас доўга разьядноўвалі бар'еры збудаваныя не намі. Нас доўга разьядноўвалі догмы і нават чужыя мовы. Сёньня нас павінна аб'яднаць ідэя Адраджэньня Бацькаўшчыны, нас павінна аб'яднаць беларуская мова, мова нашых продкаў, мова Полацкай Дзяржавы і Вялікага княства Літоўскага, мова вялікіх Альгерда і Вітаўта, Скарыны і Купалы. Мы можам належаць да розных канфесій, але нас лучыць адзіны Бог, адзіная Беларусь. Мы сёньня выказваем сваю волю садзейнічаць адраджэньню беларускага Касьцёла, духоўнасьці нашага народа, ягонай гістарычнай памяці. Ідэю адраджэньня беларускага Касьцёла будзе зьдзяйсьняць арганізацыя беларускіх каталікоў – Беларуская Каталіцкая Грамада.

Беларуская Каталіцкая Грамада ствараецца беларускімі каталікамі, якія падтрымліваюць ідэю беларусізацыі духоўнага жыцьця ў рэспубліцы, вяртаньня беларускага Касьцёла да нацыянальных вытокаў, аднаўленьня ў храмах роднай беларускай мовы, выхаваньня ў народа беларускага патрыятызму, развіцьця нацыянальнай культуры і школы.

БКГ выступае за неадкладнае прыняцьце Вярхоўным Саветам Беларусі "Закона аб свабодзе сумленьня".

БКГ заклікае беларускае каталіцкае духавенства забясьпечыць паўнакроўнае функцыянаваньне ў Касьцёле беларускай мовы, як мовы дзяржаўнай на тэрыторыі Беларусі. Дзеля гэтага неад'емнага права беларускага народу неабходна выдаваць рэлігійную і богаслужэбную літаратуру на беларускай мове.

БКГ за адраджэньне духоўнасьці народа і хрысьціянскага вучэньня, за кансалідацыю нацыі.

БКГ за стварэньне беларускіх рэлігійных навуковых і навучальных установаў усіх узроўняў і за падрыхтоўку беларускіх каталіцкіх сьветароў і рэлігійнае выхаваньне.

БКГ падтрымлівае намаганьні ўсіх дзяржаўных органаў, грамадскіх арганізацый і Касьцёла па выхаваньні ў народа патрыятызму, маральнасьці, культуры і грамадзянскай адказнасьці.

БКГ за захаваньне беларускай самабытнасьці.

БКГ за цэласнасьць і непадзельнасьць тэрыторыі Беларусі, за кансалідацыю нацыі ў яе этнічных межах.

БКГ за сьвяткаваньне рэлігійных каляндарных сьвятаў, якім надаць статус дзяржаўных.

БКГ за разьвіцьцё беларускай хрысьціянскай культуры–мастацтва, музыкі, архітэктуры.

БКГ за незалежную каталіцкую прэсу.

БКГ за вяртаньне вернікам храмаў і пабудову новых.

БКГ за трансляцыю па радыё і тэлебачаньні беларускіх набажэнстваў з храмаў.

БКГ за супрацоўніцтва з усімі дэмакратычнымі сіламі Беларусі.

БКГ за супрацоўніцтва з суайчыньнікамі і ўсімі каталікамі замежжа.

БКГ супраць атэістычнай прапаганды за кошт дзяржавы.

БКГ супраць п'янства, курэньня, наркаманіі і ўсялякага распуства і аблудных памыснасьцяў.

Сход Беларускай каталіцкай грамады Менска даручыў Аргкамітэту БКГ падрыхтаваць статут, праграму, правесьці ўстаноўчы зьезд БКГ.

Браты і сёстры! Ствараўце на месцах каталіцкія згуртаваньні і рэгіструйцеся ў Аргкамітэце БКГ.

Кантактны тэлефон: 62–73–43 з 20.00 да 22.30, Менск, Астаповіч Антось Уладзіміравіч.

**220116, Менск. Паштовая скрынка № 59 БКГ.**

**220007 Менск. Паштовая скрынка № 21 БКГ.**

**АРГКАМІТЭТ БКГ.**

*На сходзе адбылася зацікаўленая і жывая дыскусія, выступалі розныя людзі, словы якіх былі прасякнуты болем і клопатам пра лёс роднае мовы ў сьвятынях. Падаем тэксты выступаў зь нязначнымі скарачэньнямі.*

*Мікола КУПАВА,*
*сябра Саюза мастакоў Беларусі,*
*сябра Сойму БНФ "Адраджэньне"*

## УСТУПНАЕ СЛОВА

Адраджэньне нашай занядбанай Бацькаўшчыны ва ўмовах панаваньня таталітарнай сістэмы – працэс пакутлівы і складаны. Беларускі народны фронт "Адраджэньне", які вядзе барацьбу за дэмакратызацыю грамадства, дэсталінізацыю, узнаўленьне народнай маралі, духоўнасьці, культуры, роднай мовы, свабоду сумленьня, за кароткі час свайго існаваньня дамогся першых важкіх набыткаў дзеля будучыні. Але, усьведамляючы глыбокія культурныя і хрысьціянскія, прававыя і асьветніцкія традыцыі Беларусі – Вялікага княства Літоўскага, мы разумеем, што знаходзімся толькі на пачатку гэтага цяжкага, але адзінага шляху для нашага народа. Адраджэньне Беларускага народа, адбудова Беларускага нацыянальнага гмаху немагчымыя без паўнакроўнага жыцьця ўсіх канфесій, у якім каталіцызм мусіць выконваць сваю ролю. Але хрысьціянства ва ўмовах Савецкай Беларусі не выконвае місіі па кансалідацыі народа, яго адраджэньня і ўзвышэньня, а доўгі час захоўвае адчужанасьць ад нацыянальных традыцыяў, мовы, культуры.

Зь беларускага каталіцкага асяродзьдзя ў розныя часы ў нацыянальную культуру і навуку прыйшлі выдатныя прадстаўнікі народнай інтэлігенцыі: В. Дунін-Марцінкевіч і Ф. Багушэвіч, А. Пашкевіч (Цётка) і Б. Эпімах-Шыпіла, Б. Тарашкевіч і Я. Купала... У першай чвэрці XX ст. у Заходняй Беларусі Касьцёл у значнай меры набыў беларускія рысы. Гэтаму моцна спрыяла дзейнасьць беларускіх сьветароў А. Зязюлі, К. Сваяка, А. Станкевіча, В. Адважнага, Ф. Абрантовіча і іншых. Многія зь іх потым разьдзялілі горкі лёс ахвяраў сталіншчыны. У Савецкай Беларусі, дзе руйнаваліся асновы беларускай культуры і нацыянальнай сьвядомасьці, помнікі дойлідства, асабліва культавага, хрысьціянскія канфесіі занепадалі і гібелі, спраўляючы свой абавязак у нацыянальна чужых формах, праваслаўная – у расейскіх, каталіцкая – у польскіх. Духавенства як праваслаўнае, так і каталіцкае, адарваўшыся ад народнае глебы, ад нацыянальных традыцыяў вядзе душпастырскую дзейнасьць па-руску і па-польску, тым самым блаславяючы чужы патрыятызм.

Настаў рашучы момант у нашай гісторыі, калі толькі народ павінен сам стаць гаспадаром свайго лёсу, зьяднаць усе інтэлектуальныя, духоўныя сілы Беларусі ідэяй адраджэньня Бацькаўшчыны. Касьцёл, які мусіць быць беларускім, яшчэ скажа сваё слова ў гэтай пачэснай патрыятычнай справе.

Мы сабраліся тут, каб выказаць сваё слова пра ідэю беларусізацыі Касьцёла і згуртаваньня ўсіх беларусаў.

*Фэлікс ЯНУШКЕВІЧ,*
*сябра Саюза мастакоў Беларусі*

Усім нам абавязкова трэба ведаць факты, якія былі рэальнасьцю і якія зьяўляюцца нашымі аргументамі ў магчымых і, безумоўна, маючых адбыцца, дыскусіях на гэтую тэму. Што ж такое беларуская мова, з якога часу яна была ў нашых сьвятынях і як склаўся яе лёс? Я думаю, што тут ня трэба казаць, што мы адкрываем Амэрыку па гэтаму пытаньню, бо ёсьць літаратура і ня малая, і таму можна адразу весьці дыспут, абапіраючыся на моцныя падмуркі здабыткаў нашых папярэднікаў дзеячаў, якія асьвятлялі гэтае пытаньне.

Старабалгарская, ці стараславянская мова, стала чацьвёртай мовай, на якой хрысціянства пачало шэсьце па тэрыторыі Эўропы, населенай славянамі. Сталася так, што ў асноўным беларусы былі далучаны да хрысціянства па грэцкаму абраду, але тут ёсць момант, які ў нашай гісторыі крыху зацемнены. Калі мы кажам пра пачатак дзяржаўнасьці беларускай, пра Полацкае княства, пра незалежнасьць Рагвалода і Рагнеды, то забываем, што ў Полацак хрысьціянства прыйшло з Варагіі, са Скандынавіі, значыць заходняга, каталіцкага абраду. Полацкія князі былі хрысьціянамі, аб чым сьведчыць і крыж на магіле Труваўора ў Ізборску, хрысціянскімі былі і іх дружыны. І калі князі па тактычных меркаваньнях маглі зьмяніць свае рэлігійныя погляды, то дружыньнікам мяняць рэлігію не было сэнсу. Такім чынам, мы можам меркаваць, што абрад рэлігійны на тэрыторыі старажытнай Беларусі меў не толькі ўсходні – грэцкі пачатак, але і заходні – лацінскі. Гэта пытаньне, безумоўна, яшчэ спрэчнае і дыскусійнае, але ў нас ёсьць падставы сумнявацца, што заходні лацінскі пачатак у нас зьявіўся толькі пасьля таго, як Ягайла злучыў Літву з Польшчай у канцы 14 ст.; магчыма, што лацінскі прынцып служэньня ўжо быў прыняты ў нас раней, яшчэ да асабістай уніі Літвы з Польшчай. Трэба адзначыць, што пачынаючы з гэтага злучэньня пануючых дынастый, каталіцтва атрымала пашырэньне, якое належала мець у прававой эўрапейскай дзяржаве. Але, калі для нас, беларусаў, каталіцтва станавілася другой рэлігіяй, то афіцыйнай рэлігіяй Польшчы заўсёды зьяўляўся каталіцызм, таму і раней і сёньня за каталіцызмам заўсёды стаялі і стаяць інтарэсы польскага народа, і гэта можна зразумець і ацаніць – гэта польскі патрыятызм. Але ў польскіх палітыкаў гэтае пачуцьцё набывае і іншую афарбоўку – вядзецца прапаганда, што каталіцызм ёсьць толькі польская рэлігія і хто ў яе верыць на Беларусі, той паляк. На самой справе гэта зусім не так. Ад свайго пачатку і да заняпаду касьцёл як каталіцкі, так і уніяцкі карыстаўся мовай сваёй федэратыўнай дзяржавы – Вялікага княства Літоўскага, Беларускага і Жамойцкага – старажытнай беларускай мовай. І ў гэты ж час, у 16–18 стст. выдавалася беларуская рэлігійная літаратура. Такая літаратура актыўна выкарыстоўвалася і езуітамі і іх установамі, напрыклад, у Віленскай езуіцкай акадэміі, як гэта відаць з апісаньня 1645 г. езуітаў у Вільні "Жыцьцё і сьмерць Язафата Кунцэвіча". Яны вучылі беларускую мову, гэта былі падрыхтаваныя прапаведнікі, якія мелі беларускую літургію, валодалі мовай і фактычна зьяўляліся тымі місіянерамі, якія праводзілі ў жыцьцё самую ідэю дзяржаўнасьці беларускай мовы. Адносна 16, 17 стст. не можа быць размовы – беларускі касьцёл існаваў, меў поўную нацыянальную экіпіроўку. І калі ў 18–19 стст. пачаўся заняпад нацыянальнага касьцёла, гэта быў вынік разбурэння нашай дзяржаўнасьці. Тым не меньш, і ў 19 ст. былі патрыёты-ксяндзы. Вынік іх дзейнасьці – творчасьць Паўлюка Багрыма, што навучаўся ў пробашча Магнушэўскага. Гэты штандар служэньня на роднай мове свайму народу яны перадалі ў нашае 20 стагодзьдзе. Гэты штандар да нашага часу данёс кс. У. Чарняўскі, які падняў яго ў Барунскай семінарыі, дзе вучыўся (дарэчы, тут быў таксама моцны беларускі асяродак). І нёс ён гэты штандар адзін, у поўнай ізаляцыі, ня лічачы, што да яго наязджалі і прадстаўнікі новай інтэлігенцыі, ва ўсякім разе шырокага рэзанансу яго дзейнасьць не мела. У той жа час мы бачым, што нават у такіх неспрыяльных варунках Уладыслаў Чарняўскі займаецца тым, чым займаліся ўсе яго папярэднікі – беларускія ксяндзы. Ён

перакладае Біблію, Імшалы, Літургію – напрацоўвае той залаты фонд, які ніколі не гіне марна. Гэтак, дарэчы, было ўвесь час, на працягу дзейнасьці нашага беларускага Касьцёла. Ксяндзы былі адукаванымі, таленавітымі людзьмі – творцамі, паэтамі, фактычна яны былі духоўнай сілай нашага народа. У апошні час да гэтай справы далучыўся і Ян Матусевіч, гэта ўжо маладзейшае пакаленьне. Я думаю, што гэты шлях і будзе тым шляхам, на які стане ўсё беларускае каталіцкае духавенства, памятаючы сваю гісторыю, кіруючыся Законам аб дзяржаўнай мове. А калі наша партыйная бюракратыя будзе разыгрываць і далей польскую карту, то існуе магчымасьць развіцьця падзей на карысьць польскай аўтаноміі на тэрыторыі Беларускай Рэспублікі. Калі такія вобласьці як Гродзенская і Брэсцкая адваляцца ад Беларусі, то Беларусь перастане існаваць як эканамічна магутная дзяржава, таму што нашы заходнія вобласьці самыя багатыя, і мы павінны разумець гэта. Я думаю, што павінны быць створаны ўмовы для разьвіцьця ўсіх канфесій і выкарыстаньня ў сьвятынях роднай мовы. Мы павінны разумець тую адказнасьць, якая ляжыць на усіх нас у гэтай справе. Таму заклікаю прыняць самы чынны ўдзел у адраджэньні нацыянальнага Касьцёла. Пасьля ўсіх арганізацыйных момантаў у тым касьцёле, які мы абярэм, набажэнствы будуць весьціся на роднай мове, так як усе стагодзьдзі назад.

Трэба зыходзіць з галоўнага: каталікі на Беларусі – гэта беларускі народ, пераважная большасьць якіх спрадвеку беларусы, гэта мы з вамі. І апалячваньню беларусаў праз Касьцёл трэба пакласьці канец.

*Аляксандра ЛІСОЎСКАЯ,*
*бібліятэчная работніца*

Я нарадзілася ў Менску ў звычайнай беларускай сям'і, якіх шмат на Беларусі, – маці праваслаўная, бацька – каталік.

З Касьцёлам зьвязана маё нярадаснае, апаленае вайной дзяцінства. Ішла жорсткая вайна. Асабліва цяжка было нам, менскім дзецям у час фашысцкай акупацыі. Страшна было выйсьці на вуліцу: усюды былі растраляныя, павешаныя. Школы не працавалі. Адзіным прытулкам для нас быў Чырвоны Касьцёл (Касьцёл сс. Алены і Сымона), дзе мы вучыліся, ставілі спектаклі на рэлігійныя тэмы, рыхтаваліся да першай споведзі. Людзі вельмі цягнуліся да бога, маліліся. "Малітва – гэта шчыры званок душы" – засвоіла я зь дзяцінства. Да бога мы зьвярталіся на нашай роднай беларускай мове.

Чырвоны Касьцёл у небяспечны час даваў прытулак і яўрэйскім дзецям, якія ўцякалі з гета і хаваліся ад фашыстаў. Яны сядзелі побач з намі на занятках, а ў часы самай вялікай небясьпекі Віця Таўбкін нават начаваў у Касьцёле.

У мяне засталіся ад таго часу фотаздымкі, застаўся малітоўнічак, набраны лацінкай на беларускай мове. Сёньня малітоўнічкаў для дзетак беларусаў-каталікоў, на жаль, амаль няма. Дзеці рыхтуюцца да першай споведзі па малітоўнічках, набраных кірыліцай на польскай мове, якой не ведаюць і не разумеюць. Дзецям гэтым можна толькі паспачуваць. Якая безадказнасьць бацькоў і сьвятароў!

Касцёла для беларусаў-каталікоў, які працаваў бы на польскай мове, я не ўяўляю.

*Мікола АНЦЫПОВІЧ*
*кандыдат філасофскіх навукаў,*
*выкладчык кафедры філасофіі БПІ*

## КАТАЛІЦТВА – УНІЯЦТВА – БЕЛАРУСКАСЬЦЬ

Геаграфічная дэтэрмінацыя нашага гістарычнага лёсу праяўлялася ў тым, што знаходзячыся на сумежжы Ўсходу-Захаду зь іх адпаведнымі культурнымі традыцыямі і рэлігійнымі асаблівасьцямі, Беларусь пастаянна адчувала на сабе ня толькі мілітарную жорсткасьць і прагу захопу сваіх зямель з боку Расеі і Польшчы, але і традыцыйнае адмаўленьне беларусам мець уласныя сістэматызаваныя нацыянальныя ўяўленьні, ня кажучы аб якой-небудзь дынамічнай хворме нацыянальна-рэлігійнай сьвядомасьці. Абумоўленасьць прасторава-суседзскімі адносінамі адмаўленьня беларускасьці і, як вынік таго, атаясамліваньне патрыярхальна-сялянскага і нацыянальна-спецыфічнага доўгі час замінала раскрыцьцю унікальнага феномена суадносін рэлігійнага і нацыянальнага ва ўмовах Беларусі.

На сёньняшні дзень трэба рашуча адхіліць уяўленьне аб вывучанасьці гэтага пытаньня. Але зараз абмяжуемся толькі двумя заўвагамі, якія можна зрабіць, аналізуючы асьвятленьне гэтае праблемы ў расейскай, польскай і савецкай гістарыяграфіі. **Па-першае.** У даперабудовачны час савецкімі гісторыкамі, філосафамі і ў значнай ступені літаратамі, ня кажучы ўжо аб партыйных ідэёлагах і лектарах, рэлігіі і Царкве апрыёрна прыпісваецца ўсялякае зло. Пры гэтым ня толькі спрошчваецца і скажаецца сапраўднасьць, але і перабольшваецца роля канфесійнага фактара, ня ўлічваецца грамадзская памкнёнасьць чалавека як патэнцыяльнага носьбіта дабра і зла. **Па-другое.** Як у польскай, так і расейска-савецкай гістарыяграфіі схематызавана разглядаецца гісторыя хрысціянізацыі Беларусі ўвогуле, а таксама спрычыненасьць каталіцызму для гістарычнага лёсу беларусаў.

Схематызм гэты сваёю гастрынёю ськіваваны да адмаўленьня існаваньня беларусаў як неўзалежненага самабытнага этнасу. Вядучы бясконцыя узаемазахопніцкія войны за беларускія землі і пачаргова захопліваючы іх, Расея і Польшча ператварылі беларусаў у ахвяр сваіх нялюдзскіх боішчаў як у гаспадарчым, палітычным, і асабліва культурна-рэлігійным значэньні.

Кіруючыя колы Расеі і Польшчы ў пытаньнях перспектыў асіміляцыі беларусаў асаблівы напор рабілі на атаясамліваньне нацыянальнай і канфесійнай прыналежнасьці, калі ў якасьці вызначальнай характарыстыкі чалавека выдзялялася і абсалютазавалася рэлігійная прыналежнасьць. У адносінах да беларусаў гэта прыводзіла да ідэнтыфікацыі двух паняцьцяў: рускі і праваслаўны, паляк і каталік, у выніку чаго адмаўляўся сам хвакт існаваньня ня толькі беларусаў-каталікоў і беларусаў-праваслаўных, але і ўвогуле беларусаў.

Асімілятарская дзейнасьць Расеі і Польшчы ў адносінах да беларусаў была ськівавана на зьмяненьне іх рэлігійна-нацыянальнай існасьці, якая забясьпечвала духоўныя этнадыферэнцыруючыя функцыі нацыі: культуру-мову, літаратуру, музыку, мастацтва і г.д. Расея, хрышчаная пры канцы тысячагоддзя і неўзабаве папаўшая на больш чым два стагодзьдзі ў падлеглае становішча татарам-

стэпавікам, скарыстоўвала як у ідэалагічных захадах, так і ў шырокай будзённай сьвядомасьці факт атаясамліваньня паняцьцяў рускі і праваслаўны, што ў той час уяўляла прагрэсіўны момант. Прыкладна па такой самай схеме адбывалася ідэнтыфікацыя каталіцкасьці і польскасьці, з той толькі розьніцай, што гэты працэс пашыраўся ва ўмовах страты у канцы 18 ст. Польшчаю сваёй дзяржаўнасьці ў выніку трох вядомых падзелаў Рэчы Паспалітай. Першапачаткова гэты стэрэатып „польскасьць-каталіцкасьць" выконваў агулам дадатную нацыянальна-кансалідуючую ролю ў тых землях колішняй польскай дзяржавы, якія былі захоплены праваслаўнай Расеяй. Праваслаўным „схізматыкам" супроцьпастаўляўся тут прыгнечаны захопнікамі паляк-каталік.

Тры падзелы Рэчы Паспалітай, у склад якой уваходзіла Беларусь, вельмі адмоўна паўплывалі на гістарычнае развіцьцё Польшчы, але найбольш адмоўна і трагічна на лёс беларусаў. Была страчана надзея звароту да незалежнасьці Беларусі – гістарычнага Вялікага княства Літоўскага, аснову жыхарства якога складалі беларусы.

Кажучы аб усім трагізме гэтак званага „воссоединения" Беларусі і Расеі у канцы 18 ст., трэба адзначыць, што зачэпкай для захопу беларускіх зямель была „устурбаванасьць" за лёс праваслаўных беларусаў і „защита первозданности православия". Хаця агульнавядома, што да 1772 г. на тэрыторыі Беларусі існавала толькі дзесятак праваслаўных брацтваў, што складала каля 6% насельніцтва, а асноўным веравызнаньнем зьяўлялася ўніяцкае (80% насельніцтва) і рыма-каталіцкае.

Адкуль жа хрысьцілася Беларусь? Ці праз Захад-Польшчу, як нам цьвердзіць польская гістарыяграфія, ці праз Візантыю-Русь – палітыка-рамантызаваная казка расейскіх гісторыкаў. Геаграфічны накірунак хрысьціянізацыі Беларусі не зьяўляецца галоўным, адметнае, на што трэба зварачаць ўвагу, дык гэта тое, што Беларусь была ахрышчана ў рэчышчы адзінага, непадзельнага яшчэ хрысціянства і задоўга да 988-1054 гг., перыяду прыняцьця царкоўна-юрыдычных актаў аб хрышчэньні Русі і падзелу хрысціянства на каталіцызм і праваслаў'е.

Дыферэнцыяцыя беларускага этнаса ў веравызнаўчых адносінах як у прасторавым, так і часовым вымярэньні, прадвызначалася палітычна-мілітарнымі варункамі расейска-польскіх узаемадачыненьняў за ўстанаўленьне валадарніцтва на беларускіх землях. Беларусам гэтая ваяўнічасьць, калатня і агрэсіўнасьць братоў-суседзяў прыносіла матэрыяльнае спусташэньне, зьмяненьне вонкавай хвормы рэлігійнасьці і, як вынік, нішчэньня ўсяго нацыянальна-беларускага. Узьнікае пытаньне: а ці было на нашых землях зрошчваньне рэлігійнага і нацыянальнага на беларускай аснове? Адкажам дадатна. Нягледзячы на тое, што чарговыя рабаўнікі ці то з Польшчы, ці то з Расеі, накідвалі беларусам казённае хрысціянства (каталіцтва ці праваслаў'е ў чужынскай мове), народ як носьбіт рэлігійнасьці, вельмі глыбока перахоўваў і разьвіваў першасна-хрысьціянскія пастулаты, аплодненыя нацыянальнымі традыцыямі, народнай мовай, хвормай мысьленьня.

Знутры ўплеценае ў гісторыю беларускага народа, хрысьціянства мадыфікавалася ня толькі ў залежнасьці ад зьмены ўмоваў жыцьця людзей, але і пад уплывам структурных часьцін этнаса (мовы, звычаяў, псіхічнага складу і г.д.). У выніку таго, што носьбітам як зрацыяналізаванага каталіцтва, збудаванага па ўзору рымскага права, так і містычнага праваслаў'я візантыйскага варыянту на Беларусі зьяўляўся адзіны ў этнічным вымярэньні народ, гэта прадвызначала тое, што і каталіцтва, і праваслаў'е па зьместу зьліваліся з нацыянальнай культурай і гастрынёй сваёю былі ськіваваныя на разьвіцьцё беларускай нацыянальнай ідэі ў рэчышчы хрысьціянства. Нацыянальная грамадзская сьведамасьць выжываньня і самазахаванасьці народа ўгрунтоўвала прыняцьце ўніяцтва (Берасьцейская унія, 1596 г.), як рэалізацыя памкненьняў беларускага народа да рэлігійнага аб'яднаньня, як прадумовы нацыянальнага адзінства і вызваленьня.

Уніяцтва засноўвалася на прызнаньні каталіцкіх дагматаў пры захаваньні зьнешняй праваслаўнай абрадавасьці і абавязкавасьці выкарыстаньня беларускае мовы ў богаслужэньнях, чым падкрэсьлівалася ня толькі цяга да спалучэньня двух канфесій, адмаўленьне ад хрысціянскага расколу 1054 г., але, што вельмі важна, уніяцтва станавілася не дактрынальнай хвормай рэлігіі, якімі ва ўмовах Беларусі зьяўляліся палітызаваныя „польскі каталіцызм" і „рускае праваслаў'е", а народнай масавай рэлігіяй.

Абумоўленасьць фармаваньня ўніяцтва грамадзскімі ўмовамі праяўлялася не беспасрэдна, а ў выніку існаваньня двухканфесійнасьці, а значыцца расколатасьці грамадства. І не грамадзскае асяродзьдзе само па сабе, а сьветапоглядныя стэрэатыпы і традыцыі, заснаваныя на беларускай моўнай стыхіі, інтэграцыі гаспадарчага жыцьця паўплывалі на ўпраўненьне ўніяцтва ў побыце і народнай сьведамасьці.

Падасновай разьвіцьця ўніяцтва, ведама, зьяўляліся і палітычныя варункі: менавіта, неабходнасьць больш поўнага скарыстаньня хрысціянскай практыкі для ўзмацненьня дзеяздольнасьці дзяржаўных інстытутаў Вялікага княства Літоўскага з мэтаю ўрухоміць нацыянальны шлях у яго канкрэтнай самабытнасьці і ў якасьці носьбіта сусьветнае праўды. Супадзеньне палітыка-ідэалагічных, грамадзскіх інтарэсаў, укірункаваных нацыянальна-рэлігійнай сьведамасьцю на будзённым узроўні ў пытаньні сэнсавай падмуроўкі ўніяцтва, тлумачацца яго шматвартнасьцю, яго адначасовай належнасьці палітыцы, гісторыі, рэлігіі, культуры як аднаго цэлага. І ня дзіва, што царскія ўлады Расеі ў пагадненьні з Расейскай праваслаўнай царквой у 1839 г. забаранілі ўніяцтва на Беларусі і беларускую мову ў набажэнствах і публічным жыцьці, бачачы ў ім моцную супрацьдзейную сілу русіфікацыі, разьвіцьцю празелетызму (г. зн. прымусоваму абарачэньню ў новую рэлігію, у даным выпадку – у праваслаў'е), палітычнай і эканамічнай анексіі.

Калі імкнуцца вылучыць ролю каталіцызму ў разьвіцьці беларускага этнасу, то яна бязцэнная і своеасаблівая. Хаця каталіцызм знаходзіцца па-за межамі этнічных хвормаў агульнасьці людзей, носячы касмапалітычны характар, выцякаючы з тэалагічнага ўніверсалізму і абсалютызму, сувязь яго з нацыянальна-беларускім фактарам стабільная. Безумоўна, трэба размяжоўваць разуменьне каталіцызму як светаўспрыманьня, якое немагчыма апісаць адэкватна на мове палітыкі, так як каталіцызм і палітыка, разам злучаныя, месьцяць супярэчнасьць у сабе. І, з другога боку, зпалітазаваны казённы „польскі каталіцызм", „польская вера" як носьбіта касьцёльна-польскага нацыяналізму на Беларусі. Апошні традыцыйна актыўна скарыстоўваўся кіруючай верхавінай міжваеннай Польшы у спробе асіміляцыі беларусаў коштам атаясамліваньня паняцьцяў „каталік" і „паляк".

Дамінуючае палажэньне каталіцкіх тэндэнцый ва ўсе часы існаваньня хрысціянства на Беларусі абумоўлівалася пачуцьцёвасьцю шырокіх гушчаў народа на каталіцкія дагматы як складовую частку агульналюдзскай цывілізацыі. Казённы каталіцызм, прадвызначаўшы пашырэньне „касьцёльнай польскасьці", замала кранаў сэрца і душу беларуса ў штодзённым побыце і нават спрыяў брыяньню недаверу да яго, так як самае большае, што ад яго можна было атрымаць – гэта ўспрыманьне польскае мовы, культа польскіх каралёў, герояў і г.д.

Ва ўмовах захопу Расеяй у 18 ст. беларускіх земляў сувязь каталіцызму з нацыянальна-вызваленчым рухам на Беларусі, супрацьстаяньне палітыцы царызму ўзмацнялі сімбіёз нацыянальна-беларускага з каталіцкасьцю. І гэта праявілася ў тым, што пачатак беларускага адраджэньня адбыўся ў нетрах каталіцызму. Прыгадаем нашых бацькоў-закладальнікаў адраджэнскага руху: Францішка Скарыну, Кастуся Каліноўскага, Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Цётку (Алаізу Пашкевіч), Адама Гурыновіча, Янку Купалу, Браніслава Эпімаха-Шыпілу, Казіміра Сваяка, Адама Станкевіча, Браніслава Тарашкевіча, Вацлава Ластоўскага, Івана і Антона Луцкевічаў ды шмат каго іншых – усе яны выхаваліся на каталіцкіх традыцыях у спалучэньні з глыбінным нацыянальным патрыятызмам і ніколі не лічылі каталіцкі касьцёл на Беларусі „бастыёнам польскасьці", як на сёньняшні дзень абазначыў яго на сустрэчы з прэм'ерам Польшчы Тадэвушам Мазавецкім у лістападзе 1989 г. ксёндз прэлат зь Пінску Козімеж Свентэк.

І калі сёньня ўзьнімаецца йзноў праблема духоўнасьці, нацыянальнай годнасьці беларусаў, то роля каталіцтва ў ёй бачыцца вельмі выразна і зьяўляецца ў спалучэньні з нацыянальным пачуцьцём пэўнаю сілаю, якая будзе доўжыць і разьвіваць гістарычную пераймальнасьць прыхільнасьці і цьвёрдасьці да ідэі хрысціянства як трывалага пласта агульналюдзскай культуры.

*Сьвятыя зямлі Беларускай*

## ЕФРАСІНЬНЯ ПОЛАЦКАЯ
## 1110(?)–23.05.1175 гг.

*"Вось сабрала вас, нібы птушка птушанятаў пад крылы свае і на пашы быццам авечак, каб вы пасьвіліся ў запаведах Божых. І я зь вясёлым сэрцам стараюся вучыць вас, бачачы плён вашае працы, і такі дождж праліваю да вас вучэньнем. А нівы вашыя ў той самай меры стаяць, не ўзрастаючы, не ўзыходзячы ўгору, а год ужо канчаецца, і лапата ляжыць на гумне. Але баюся, што будзеце вы пустазельлем і аддадуць вас агню незгасальнаму. Пастарайцеся ж, дзеці мае, пазьбегнуць яго, і зрабіцеся чыстай пшаніцаю, і зьмяліцеся ў жорнах умірэнасьцю, малітвамі і пастом, каб прынесьціся чыстым хлебам на трапезу Хрыстову".*

Гэтыя словы духоўнага настаўленьня Ефрасіньні Полацкай даносяцца да нас в азоранага ейным сьвятым жыцьцём XII стагодзьдзя.

Будучая заступніца і асьветніца Беларускае зямлі нарадзілася ў сям'і князя Сьвятаслава-Георгія, што быў малодшым сынам славутага Ўсяслава Чарадзея, будаўніка храма сьв. Сафіі, валадара магутнае сярэднявечнае дзяржавы – Полацкага княства. Верагодна, якраз у школе пры Сафійскім саборы князёўна, названая пры нараджэньні старажытным полацкім імем Прадслава, і зрабіла пер-



шыя крокі на шляху кніжнае асьветы, што выведзе яе да вяршыняў мудрасьці і зробіць ці не самай адукаванаю жанчынаю ў тагачаснай Еўропе.

Слава пра розум, схільнасьць да навукі і цялесную прыгажосьць юнае Прадславы разьнеслася па ўсім усходнеславянскім сьвеце, і ў Полацак зачасьціўі сваты. Калі князёўне споўнілася дванаццаць гадоў, бацькі, як і было ў тыя часы зазвычаена, наважылі аддаць яе замуж за сына слаўнага і багатага князя. І тады, кажа нам Жыцце, думкі ейныя напоўніліся развагамі: "Што зрабілі нашыя роды, якія былі да нас? Жаніліся і выходзілі замуж, і княжылі, але не вечна жылі; жыцьцё паўз іх праплыло, і зьгінула слава іхняя, быццам прах і горш за павуціньне. Затое жанчыны, якія жылі раней і, узяўшы мужчынскую моц, пайшлі следам за сваім Жаніхом і целы свае аддалі на пакуты, і склалі галовы пад меч, а іншыя, хоць і не схілілі шыі свае пад жалеза, але духоўным мячом адсеклі ад сябе плоцкія асалоды... тыя памятныя на зямлі, іхнія імёны напісаныя на нябёсах, і яны там з анёламі Бога ўслаўляюць". Употай ад бацькоў Прадслава робіцца Хрыстовою нявестаю, атрымаўшы пры пострыгу імя Ефрасіньня.

Полацкі епіскап Ільля дазволіў юнай манашцы жыць у кельлі-галубніцы храма сьв. Сафіі. Прыняўшы подзьвіг посту, Ефрасіньня прысьвяціла дні свае вывучэньню і перапісцы Сьвятога Пісаньня і твораў айцоў царквы, пацерыкоў, жыцій, летапісаў. Апрача таго, яна перакладала з грэцкае і лацінскае моваў, пісала ўласныя творы, складала Полацкі летапіс. Грошы ад перапісаных кніг паводле ейнае волі раздавалі бедным.

Калі падзьвіжнікі дасягаюць маральнае дасканаласьці, Госпад заклікае іх да стварэньня сваіх духоўных цьвярдыняў. Так было наканавана і Ефрасіньні. Жыцце паведамляе, што аднойчы ў сне анёл адвёў яе за дзьве вярсты ад места на бераг Палаты, дзе быў драўляны храм Спаса, і прамовіў: "Тут

належыць табе быць!" Пасьля гэтага сну, што паўтарыўся тройчы, Ефрасіньня заснавала на ўказаным месцы жаночы манастыр, а пазьней, пры царкве Багародзіцы, і мужчынскі.

Створаныя рупнасьцю найпадобнейшае Ефрасіньні цьвярдыні слова Божага былі магутнымі агменямі асьветы і дабрачыннасьці. У манастырскіх скрыпторыях перапісваліся, а потым разыходзіліся па славянскім сьвеце кнігі, дзеці ў школах спасьцігалі кніжную навуку, вучыліся душэўнай і цялеснай чысціні. У манастырах знаходзілі заступніцтва, суцяшэньне і дапамогу ўдовы і сіроты, нямоглыя і пакрыўджаныя.

Зьбіраючы пад сваё крыло таленавітых людзей Полацкае зямлі, ігуменьня сталася нашаю першаю мецэнаткаю. Натхнёны ёю дойлід Іаан за 30 тыдняў пабудаваў сусьветна вядомы мураваны храм Спаса. Майстар-ювелір Лазар Богша зрабіў дзеля Ефрасіньні свой славуты шасьціканцовы крыж – неацэнную сьвятыню беларускага народу.

Выконваючы просьбу падзьвіжніцы, ейны блізкі сваяк візантыйскі імператар Мануіл Комнін з блаславеньня патрыярха Лукі Хрысаверга прыслаў у Полацак абраз Багародзіцы Эфескай, адзін з трох абразоў, напісаных яшчэ пры жыцьці Дзевы Марыі першым іканапісцам апосталам Лукой.

Надзеленая не толькі ясным розумам, але і моцнай воляю, Ефрасіньня ўздымала свой голас супроць княскіх усобіцаў і братазабойчых войнаў. Яна не хацела бачыць варожасьці ні паміж князямі, ні паміж людзьмі паспалітымі, але ўсіх хацела мець – як адну душу.

На схіле дзён сваіх, калі Полацкая зямля, вядома, пры самым чынным удзеле князёўны-ігуменьні спазнала часовае заміраньне і спакой, Ефрасіньня выправілася ў Сьвятую зямлю. Дасягнуўшы Ерусаліму, паломніца ля труны Гасподняе прасіла Усявышняга ўзяць да сябе ейную душу там, дзе адбылося збаўленьня роду чалавечага. малітва была пачутая, і пасьля хваробы, 23 траўня 1173 года Ефрасіньня, прыняўшы найцысьцейшае цела і сьвятую кроў Хрыстовую, перадала душу сваю ў рукі Бога.

Праз колькі гадоў манахі перавезьлі мошчы Ефрасіньні з ерусалімскага манастыра сьв. Феадосія ў Кіева-Пячорскую лаўру (сімвалічная частка мошчаў знаходзіцца там і цяпер). У 1910 годзе астанкі асьветніцы былі ўрачыста перанесеныя ў Полацак, у заснаваны ёю некалі Спаскі манастыр. Там у 1922 годзе па загадзе бальшавіцкіх уладаў адбылося кашчуннае ўскрыцьцё труны з мошчамі, пасьля якога злачынцы адправілі іх на выставу ў Маскву, а потым – у Віцебскі краязнаўчы музей і музей атэізму. Вернутыя пад час нямецкай акупацыі ў полацкі Спаскі манастыр, мошчы святой спачываюць там і цяпер.

Дзень сьв. Ефрасіньні Полацкай сьвяткуецца штогод 5 чэрвеня паводле новага стылю.

Пасьля таго, як пастановаю Берасьцейскага сабору 1596 года на беларускіх і украінскіх землях ажыцьцявілася Боганатхнёная ідэя царкоўнае уніі, блажэнная і найпадобнейшая Ефрасіньня Полацкая сталася і застаецца сьвятой, якую разам з праваслаўнымі беларусамі шануюць і іхнія браты-каталікі. І сёньня ў сцьверджанай папам малітве за Беларускі народ мы паўтараем: "Цябе, Прачыстая Багародзіца і наша нябесная Маці, просім: прычыніся за намі, а Ты сьвятая Ефрасіньня Полацкая – патронка Беларусі – ды ўсе сьвятыя заступнікі Беларускага народу, апякуйцеся намі, каб мы сталіся народам сьвятым, што выконвае Волю Божую і сваё пасланство, каб прычыніліся да агульнага дабра тут, на зямлі, а ў прышлым жыцьці атрымалі вечнае шчасьце, і Табе, прадвечнаму Валадару, прыносілі славу, чэсьць і паклон на векі вечныя. Амін".

**Уладзімер**

**Весткі зь местаў і вёсак Беларусі**

Вілейка. 17 чэрвеня б.г. тут адбылося асьвячэньне касьцёла, які пасьля 50-гадовага перапынку зноў быў вернуты каталікам. Сьвятую Імшу і асьвячэньне на польскай мове правіў біскуп д-р Тадэвуш Кандрусевіч, якому дапамагалі ксяндзы зь некаторых парафіяў. Дзеці і дарослыя вернікі ў польскай мове склалі віньшаваньні біскупу Т.Кандрусевічу. Зьнешне касьцёл быў упрыгожаны чырвонымі стужкамі – у савецкім духу, усярэдку – бела-чырвонымі, згодна польскай дзяржаўнай сімволікі. На сьвята зышлося і зьехалася шмат тысячаў вернікаў зь Вілейкі і навакольных вёсак. Урачысты звон быў праведзены з званіцы праваслаўнай царквы.

У час Імшы біскуп Т.Кандрусевіч прамовіў казань на польскай, беларускай, расейскай і літоўскай мовах. Кс. Ян Матусевіч прачытаў урывак з Сьвятога Пісаньня на беларускай мове.

Менск. 15 ліпеня, ў дзень Перамогі пад Грунвальдам, д-р біскуп Т.Кандрусевіч з удзелам кс. Яна Матусевіча адслужыў Сьвятую Імшу на беларускай мове ў Менскім Кальварыйскім касьцёле ў гонар палеглых герояў і невядомых рыцараў Вялікай Перамогі.

Удзень ля помніка Янку Купалу з нагоды 580 угодкаў Перамогі пад Грунвальдам адбылася урачыстасьць, якую сумесна наладзілі Менская мястовая Рада (Мінгарсавет) і БНФ „Адраджэньне" пры ўдзеле Беларускай Каталіцкай Грамады. Адным з прывабных пунктаў сьвята была выстава твораў беларускіх мастакоў на тэму Грунвальда, у якой прымалі ўдзел У. і М. Басалыгі, У.Крукоўскі, М.Купава, В. і Ф. Янушкевічы. На сьвяце выступілі беларускія вучоныя, літаратары, мастакі, акторы. Быў зачытаны Зварот жыхароў Менска да уладаў места аб неабходнасьці збудаваньня ў беларускай сталіцы помніка „Героям Грунвальда". Гучалі беларускія песьні і вершы. Хор БКГ выканаў хрысьціянскія сьпевы. Кс. Ян Матусевіч зьвярнуўся да прысутных са словамі прывітаньня, прачытаў верш беларускага каталіцкага паэта а. К.Сваяка і на завяршэньне асьвяціў беларускія нацыянальныя сьцягі і харугвы, якія упрыгожвалі сьвята. Былі прачытаны пратэстанцкая малітва па-беларуску і мусульманская па-татарску.

**У канцы ліпеня – пачатку жніўня Беларусь ізноў наведаў Апостальскі Візітатар для беларусаў-каталікоў а.Аляксандар. Ён прывёз аўтафуру медыкаментаў і вітамінаў для беларускіх дзяцей, што жывуць у Чарнобыльскай зоне. Медыкаменты прыдбаныя на ахвяраваньні нашых суайчыньнікаў у Вялікай Брытаніі. А.Аляксандар наведаў медычныя цэнтры рэспублікі і перадаў падарункі Гематалагічнаму адзьдзяленьню 1-й клінічнай лякарні Менску, Дзіцячага адзьдзяленьня Гомельскай абласной лякарні й Хвойніцкай раённай лякарні. 5 і 6 жніўня а.Аляксандар адслужыў Сьвятую Імшу паводле уніяцкага абраду ў Менскім Кальварыйскім касьцёле. Падчас свайго знаходжаньня ў Менску а.Аляксандар сустракаўся зь беларускай моладзьдзю, медыкамі, беларускай інтэлігенцыяй, і актывістамі ТБМ імя Ф.Скарыны.**

x x x

**Менск. 16 жніўня. На пляцы ля касьцёла сьв.Роха адбылося беларускае набажэнства з нагоды сьвята патрона гэтага касьцёла. Экстэр'ер бажніцы быў упрыгожаны абразом сьв. Роха. Імшу адслужыў а.Уладзіслаў Чарняўскі. Набажэнства ўлады раёна не дазволілі пад „аргументамі", што „людзі могут траву вытоптать".. (!!!) Сьвята ўдалася, вернікі былі ўдзячныя сьвятару за пачутае роднае слова да Бога. Гэта была першая беларуская служба а.Уладзіслава зь Вішнева ў Менску.**

**Ваўкавыскі раён**

Вёска Вярэйкі

Тутэйшы касьцёл ці царква (гэта зараз высьвятляе сьпецыяльная камісія, але вядома, што сьвятыня будавалася ў першай палове XIX ст. як каталіцкі ці вуніяцкі храм, перададзены пасьля скасаваньня Вуніі праваслаўным, у розныя часы працаваў як касьцёл і як царква), да нядаўняга часу быў занядбаны. Па-просту мясцовыя ўлады і гаспадарка ўтварылі ў ім склад. Але на хвалі ажыўленьня духоўнага жыцьця ў Краі, прыйшло і ў Вярэйкі жаданьне пераўтварэньняў. На запатрабаваньне вернікаў-каталікоў вярнуць ім касьцёл дырэктар саўгаса Ф.Крук аддаў ключы ад сьвятыні. На агульнай хвалі і сам Франьцішак Крук і Алена Аўгусьціновіч – сакратар партарганізацыі таксама сябе адчулі каталікамі, ды не проста каталікамі, а нават палякамі. У касьцёле пачалі рамонт, каталікі рыхтуюцца да набажэнства.

Вярэйкі – вёска двухканфесійная, таму, натуральна, і праваслаўным беларусам, зусім слушна, неабходна спраўляць свае набажэнствы ў сваёй бажніцы. Вось тут і пачалася вайна паміж „палякамі" і „рускімі" за валоданьне храмам. Праваслаўныя нават баставалі – аддайце касьцёл пад царкву! Канфлікт абвастраецца і суправаджаецца ўзаемнымі пагрозамі і абразамі, ледзь не даходзіць да калатнечы. А мясцовыя ўлады, і мясцовыя газеты, і радыё маўчаць, маўчыць і мясцовая КПБ. Гэта зразумела. Праблемам духоўнага жыцьця і іх уладкаваньня ў ВПШ не вучылі. Але дзе ж БНФ, дзе ТБМ? Ці гэта справа ня іх? Хто дапаможа вернікам – каталікам і праваслаўным паразумецца, вырашыць праблему без пераможаных, па хрысьціянску?

Вёска Індура

Тут, у мясцовым касьцёле вядзе службу ксёндз з Польшчы. Беларускія каталікі забясьпечваюцца малітоўнікамі на польскай мове, друкаваныя рускімі літарамі. Дзецям раздаюць маленькія польскія сьцяжкі. Пасьля службы ксёндз падымае два пальцы ўгору ў выглядзе V (Victory – Перамога) (?!) Усе разам сьпяваюць польскі дзяржаўны гімн. Усюды можна купіць ад рэпрадукцый абразкоў, да малітоўнікаў і розных культавых рэчаў, прывезеных з Польшчы. Тут жа вядуць агітацыю актывісты „Польскага Саюзу" за польскую школу. Сюды часта наведваюцца і розныя госьці з суседняй краіны, і тады ў размовах з насельніцтвам можна было пачуць такое: „...Прыйдзе час, і ўрад пана Мазавецкага паставіць пытаньне аб былых тэрыторыях, вас жа, палякаў, тут большасьць..." (?!)

Польскія ж ксяндзы заклікаюць парафіян дамагацца, каб яны прыязджалі сюды напастаянна. Тут ужо не пачуеш азначэньня „каталіцкі касьцёл", тут пануе касьцёл „польскі". Гэткі каталіцызм падтрымліваюць 10% жыхароў парафіі, гэта пераважна касьцёльныя актывісты. Яны даўно забыліся пра гуманную сутнасьць хрысьціянства і вядуць грубую палітычную апрацоўку народа, які за 50 гадоў панаваньня бальшавіцкай ідэалогіі пазбавіўся роднай мовы, роднай культуры, нацыянальнай сьвядомасьці, гістарычнай памяці.

Юрась АДВАЖНЫ,
уласны карэспандэнт БС

Ад рэдакцыі

За апошні год у Беларусь з Польшчы прыехала багата ксяндзоў, апрача гэтага ўкараняць у беларускіх каталікоў польскі дух прыязджаюць манахі, місіянеры, розныя візіцёры. Зусім ня дзіўна, што гэтай справе дапамагаюць высокія партыйныя і савецкія дзеячы Заходняй Беларусі – таварышы Сямёнаў, Арціменя Каратчэня, Жэбрак...

Функцыянерам ад КПСС ніколі не былі сваімі ідэалы Беларусі. А цяпер, калі можна і з рэлігіі штосьці выгадаць для сябе, яны згодны дапамагаць палякам у паланізацыі нашага Краю. У тым, што беларускія каталікі ў значнай колькасьці сябе залічваюць да палякаў, уся віна камуністычнага рэжыму, які не толькі забараняў любую рэлігію, але падкрэсьліваў, што каталіцызм прынесены звонку, значыць не наша рэлігія, не спрыяў беларусізацыі касьцёла. Вось праваслаўе – гэта наша, тым больш на расейскай мове, значыць, удвая наша. Гэтак трактавалася як камуністычнымі ідэолагамі, так і афіцыйнымі „вучонымі-гісторыкамі". Выдаваліся падручнікі па гісторыі Беларусі, мэта якіх была ды і ёсьць прывіць нелюбоў, нянавісьць да ўсяго беларускага, мэта была трымаць народ у невуцтве, не даць народу кансалідавацца, адчуць сябе народам. За ўсе гады савецкай улады кіраўніцтва рэспублікі нават не імкнулася давесьці народу, што ў яго за плячыма магутная гісторыя, што ў Беларусі скляліся яшчэ ў сярэднявеччы і замацаваліся ў эпоху Рэнесансу традыцыі талерантнасьці, што ў Беларусі мірна суіснавалі і праваслаўе, і каталіцтва, і уніяцтва, і кальвінізм і іншыя рэлігіі і што ад гэтага беларусы не сталіся італьянцамі, гішпанцамі ці немцамі.

А паводле Статуту Княства Літоўскага 1529, 1566, 1588 гг. у Беларусі забаранялася сяліцца і скупляць зямлю палякам. А кароль Ягайла, ды іншыя каралі, магнацкія роды – Агінскія, Радзівілы, Сапегі і інш. – не былі палякамі, нават нацыянальны герой Польшчы Т.Касьцюшка, нацыянальны паэт А.Міцкевіч паходзяць зь беларускіх шляхецкіх родаў, то ўжо ж якія там Ф.Крук ды А.Аўгусьціновіч палякі?

Партапарат апошнія гады ўсе сілы прыкладае на барацьбу з БНФ, „Мартыралогам", сімволікай Беларусі, нават з БНР. А вось тое, што за гэты час у рэспубліцы зьявіліся сілы, якія здольныя разарваць Беларусь на кавалкі, яны не заўважаюць, таму што не хочуць заўважаць.

Таму зусім ня дзіўна, што ў Менгарвыканкаме не рэгіструецца Беларуская касьцёльная Рада, што само па сабе зьневажальна. Затое ж Менгарвыканкам рэгіструе арганізацыю „Отечество" (!). Дзеяньні ўладаў пасьлядоўныя і выверaныя часам – не пушчаць нічога беларускага!

Польскі ж клер мае вялікі вопыт у справе паланізацыі беларускіх зямель. Але сёньняшняя дзейнасьць польскіх духоўнікаў на Беларусі ўжо перарасла рамкі Касьцёла і Хрысьціянства, гэта ўжо грубае палітычнае ўмяшальніцтва ў справы другога народа. Парушаецца суверэнітэт Беларусі. І самае агіднае тое, што ўсё гэта адбываецца з патураньня і падтрымкі ўладаў. Адзінае, на што хочацца спадзявацца, што дзеяньні польскага клеру на Беларусі не адлюстроўваюць палітыкі Салідарнасьці.

На розных рэспубліканскіх урачыстасьцях і прыёмах безразьдзельна прысутнічае толькі вярхоўнае праваслаўнае духавенства так званай Беларускай праваслаўнай царквы. Каталіцкія ксяндзы і біскуп не запрашаюцца прынцыпова. Такім чынам лішні раз падкрэсьліваецца, што Беларусь праваслаўная і ніякі каталіцызм нам не патрэбен. А што рабіць каталіцкім сьветарам у такім выпадку, як не трымацца польскай арыентацыі?

Былі б у нас свае беларускія ксяндзы, усё было б інакш. Але мы павінны цьвёрда ўсьвядоміць, што нам ніхто на дапаможа. На Чарнобыльскай бядзе мы мелі магчымасьць пераканацца, нас Масква не будзе ратаваць. У **гэтай бядзе** нам Варшава не памочніца. Толькі самі сабе дамо рады. Адно выратаваньне: мы павінны ўсьвядоміць, што мы – народ, мы нацыя, нам трэба кансалідавацца, ці мы каталікі, ці мы праваслаўныя – мы адзіны народ. Нам трэба з сваіх шэрагаў вылучаць людзей для навучаньня на сьветароў. Нам трэба даць народу асьвету на нашай мове. Дапаможа нам Бог!

x x x

1 верасьня ў Гародні пачала працу заснаваная тут каталіцкая семінарыя.

Цэлы год са Скарынам

6 верасьня ў Менску ў Вялікім тэатры Беларусі адбыліся асноўныя ўрачыстасьці з нагоды 500-гадовага юбілею Ф.Скарыны, якія прайшлі на традыцыйным для застойнага часу ўзроўні. Горад быў упрыгожаны ў ружовыя, жоўтыя, блакітныя, аранжавыя, чырвоныя сьцягі. Гэтая агрэсіўна-назойлівая безгустоўшчына стала лейтматывам у аздабленьні Менску і Полацку. Дык нядзіўна, што ў час урачыстага паседжаньня і афіцыйнага канцэрту студэнткі БДУ павесілі на балкон тэатра беларускі нацыянальны сьцяг, які мог бачыць ў свой час і Скарына. Але тут раптоўна зьявіліся тры невядомыя постаці і пачалі зрываць гэты сьцяг, зьневажаць дзяўчат. Тады ратаваць сьцяг і дзяўчат кінуліся госьці з Мазыра, кандыдат філалогіі выкладчык Мазырскага педінстытута Ніна Аксёнчык і Уладзімір Малашчанка. Але ўдарам у твар адным з хуліганаў Ніна

моцна выцялася аб мармуровую калону, а Ўладзю ўжо круцілі рукі зусім не акторскага выгляду малойцы... Назаўтра – былі медэкспертыза і даведка аб нанесеных пабоях, у народны суд Цэнтральнага раёна Менска – пададзена заява на работніка ДАВТа БССР тав. Віктарава А.Д. Сьведкамі гэтай хуліганскай выхадкі былі менскія мастакі, народныя дэпутаты Менгарсавета і іншыя людзі.

Тут у наяўнасьці была абражана чалавечая і нацыянальная годнасьць людзей. Былі парушаны Дэкларацыя пра дзяржаўны суверэнітэт БССР (арт.9); рашэньне Менгарсавета ад 30 жніўня 1990. „Пра беларускую нацыянальную сімволіку і яе выкарыстаньне ў Менску".

**Полацак.** 7-9 верасьня тут адбываліся цэнтральныя падзеі сьвята Скарыны. І тут зьне괍важалі людзей і штрафавалі за выкарыстаньне нацыянальнай сімволікі. Хапала тут і сваіх дзівосаў. Шырока прадавалася (1 руб.) індульгенцыя на адпушчэньне грахоў, выдадзеная Полацкім гаркамам КПБ на рускай мове. Побач са Скарынаю можна было ўбачыць Пятра 1 і Суворава, і шмат яшчэ чаго. Урэшце ў Сахвейскім саборы адбылася літургія... на расейскай мове і канцэрт, што ўжо ня ўсе маглі вытрымаць. Многія пакідалі храм. Госьць з Англіі сказаў на неблагой беларускай мове: „Не для гэтага прыехаў у Полацак, у Беларусь... З упэўненасьцю магу сказаць, што ў часы Скарыны на Беларусі на вялікім уздыме была і музычная, і харавая культура. Я гэта ўсё бачыў у зборніках, сшытках таго часу. Усё гэта ёсьць у архівах, бібліятэках Захаду..."

Многіх гасьцей зь Менску і Вільні ў Сахвею не пускалі, бо яны былі з беларускімі сьцягамі. З патрабаваньня полацкіх каталікоў і уніятаў для каталіцкай службы, якую мусіў правесьці а.Ян Матусевіч, улады места прапанавалі „ленкомнату..." Ды мусіла ж быць штосьці і станоўчае. На сходах ля Сахвеі ў зусім нечаканай сітуацыі быў асьвечаны Мітрапалітам, патрыяршым экзархам усяе Беларусі Філарэтам тэй самы, ўжо вядомы нам па опернаму тэатру, беларускі сьцяг. Цяпер ён асьвечаны ўсімі хрысьціянскімі канфесіямі. Гэта добры знак на кансалідацыю народа.

**Вільня.** 17 лістапада тут адбылося вялікае сьвята Ф.Скарыны, наладжанае таварыствам Беларускай Культуры Летувіскага фонду Культуры. Яно пачалося раніцай зь Сьвятое Імшы ў Віленскай катэдры. Імшу праводзіў на беларускай мове Апостальскі Адміністратар Дыяцэзіі Менскай біскуп Тадэвуш Кандрусевіч, якому дапамагаў беларускі каталіцкі сьвятар а.Уладзіслаў Чарняўскі зь Вішнева. Біскуп Т.Кандрусевіч прамовіў урачыстую казань у хвалу Скарыне. Пад скляпеньнямі катэдры гучалі арганы, камерны хор БДУ сьпяваў беларускія хрысьціянскія песьні. Паўсюдна чулася беларуская мова, луналі беларускія сьцягі.

А 13-й гадзіне на доме Якуба Бабіча, што пры Ратушнай плошчы, дзе была заснаваная першая ў нашай краіне друкарня –друкарня Ф.Скарыны, адбылося адкрыцьцё мемарыяльнай дошкі налетувіскай і беларускай мовах з барэльефам Скарыны. Выступілі першы намесьнік Старшыні ВС Беларусі С.Шушкевіч, намесьнік Старшыні БНФ М.Ткачоў, прадстаўнікі Летувіскай рэспублікі і Беларусі. Айцец Уладзіслаў асьвяціў дошку. Прысутныя прасьпявалі беларускі нацыянальны гімн.

Увечары ў Доме мастака адкрылася выстава выкладчыкаў істудэнтаў мастацкага факультэту БДТМІ, адбыўся канцэрт летувіскіх і беларускіх майстроў сцэны. Гучалі музыка з Полацкага сшытка, летувіскія і беларускія песьні, сцэну ўпрыгожвалі партрэт Скарыны і нацыянальныя сьцягі.

Было сьвята двух суверэнных народаў, якіх аб'яднала вялікая постаць Скарыны, адзін лёс і гісторыя.

**Менск.** 3 лістапада грамадскасьць сталіцы адзначыла Дзяды – дзень памяці ўсіх памерлых. Сёлета арганізатарамі былі Мартыралог Беларусі, Беларускі народны фронт і Беларускі фонд культуры. Напярэдадні была праведзена талака ў Курапатах. Ураньні 3лістапада былі наведаны многія магілкі ў Менску, ў Курапатах і ўЛошыцы – новавыяўленае месца растрэлаў нявінных людзей. Дамагілаў леглі кветкі. А з апоўдня шматлюднае шэсьце рухалася зпл. Мяснікова да парку Чалюскінцаў. У руках удзельнікі трымалі лозунгі і плакаты, якія раскрывалі сутнасьць „выдатных дзеячоў", імёнамі якіх увекавечаны плошчы і вуліцы Менску – „Каго шануем?!": Мяснікян, Свярдлоў, Урыцкі, Валадарскі, Кнорын, Калінін і г.д.

Першы прыпынак быў зроблены на рагу вуліцы Урыцкага і пр. Леніна ля будынка былога НКВД. Тут была ўстаноўлена мемарыяльная дошка на камені з тэкстам: „Адсюль, з будынка НКВД пачынаўся пакутны шлях у Курапаты. Вечная памяць ахвярам бальшавіцкага тэрору!" Побач паўстала каплічка з сьвечкамі. Цэлы дзень і ноч на 4 лістапада сюды ішлі людзі каб запаліць сьвечку, стаялі ў ганаровай вахце ля каменя і каплічкі. А палове сёмай раніцою і камень і каплічка зьніклі. Некалькі дзён працягваліся пошукі і камень з дошкай былі знойдзены... на дворышчы Дарожна-эксплуатацыйнай службы. 7 лістапада мемарыяльны помнік быў адноўлены на сваім месцы, а наступнай ноччу быў зноў украдзены... пасьля чаго на гэтым месцы аж да зімы дзяжурылі людзі з плакатамі, ішлі жыхары сталіцы моўчкі пастаяць тут, паставіць сьвечку ў памлць нявінных ахвяраў.

Але вернемся ў 3 лістапада. Шэсьце спынялася ля помнікаў Янку Купалу, на пл.Перамогі, Якубу Коласу і мемарыяльнай дошкі Ф.Скарыну. На пл.Калініна быў выстаўлены пікет з плакатамі ганьбы усесаюзнаму кату і з патрабаваньнем дэмантажу помніка. І вось парк Чалюскінцаў, былы лес Воўчы хвост. Тут таксама зямля палітая крывёю і тут былі масавыя растрэлы нявінных людзей. Выкладчыкі і студэнты БДТМІ вырабілі з дрэва Крыж Пакуты ў памяць ахвяраў генацыду, якія спаткалі сьмерць у гэтым лесе. Гэты крыж ад інстытута да парку несьлі на руках. Пад гукі жалобнае музыкі быў усталяваны і адкрыты помнік, адбыўся мітынг.

Прысутнымі была прынята ўхвала, у якой у прыватнасьці патрабуецца дэмантаж помнікаў асобам з акружэньня Сталіна і антыбеларускай дзейнасьці, перайменаваньне парку...

+

**Магутны Божа**



Н. Арсеньнева Муз. М.Равенскага

Mahutny Boža! Ŭładar suśvietaŭ,
Vialikich soncaŭ i serc małych!
Nad Biełarusiaj, cichaj i viettaj,
Rassyp pramieńni svaje chvały.

Daj spor u pracy štodziennaj, šeraj,
Na łustu chleba, na rodnyj kraj,
Pavahu, siłu i vielič viery
U našu praŭdu, u pryšłaść — daj!

Daj uradlivaść žytniovym nivam,
Učynkam našym pašli ŭmałot!
Zrabi mahutnaj, zrabi ščaślivaj
Krajinu našu i naš narod!

У Менскім Кальварыйскім касьцёле ў кожную нядзелю, а 17.00 гадзіне адбываецца беларуская служба, якую праводзе а.Міхал.

**З НАРАДЖЭНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ — З КАЛЯДАМІ! ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1991 ГОДА!**

**БЕЛАРУСКАЯ СЬВЯТЫНЯ.** Адрас рэдакцыі: 220005, Менск, ГСП, завулак Румянцава, 13 тэл. 33-25-11. Сабекошт нумару 50 кап. Наклад 999 ас.